# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна - навуковы, пэдагогічны і літаратурна - грамадзкі штомесячнік


ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГОДЗЬДЗЕ



Якуб Колас 1882—1932

*„І прачнецца ад дрыматы з намі наша старана!“*




**№ 5 (15)** **Рыга, кастрычнік 1932** **№ 5 (15)**

## Зьмест № 5 (15):



### Абвяшчаецца падпіска на 1933 год

на адзіны ў Балтыцы беларускі штомесячнік

# „БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ“

папулярна-навуковы, пэдагогіч. і літаратурна-грамадзкі часопіс

**«Беларуская Школа у Латвіі»** асьвятляе пераважна жыцьцё беларускіх школ і грамадзтва у Латвійскай Рэспубліцы, але апроч таго дае мйсца аглядам беларускага жыцьця у Літве, у Заходняй Беларусі (пад Польшчай), у Беларускай Радавай Сацыялістычнай Рэспубліцы ўва Усходняй Беларусі (беларускія часткі Смаленшчыны, Пскоўшчыны і Бранщчыны), а таксама і жыцьцё беларусаў у іншых краёх.

**«Беларуская Школа у Латвіі»** працуе у цесным кантакце з Беларускім Навукова-Краязнаўчым Т-вам у Латвіі і зьмяшчае навукова-краязнаўчыя працы гэтага Т-ва ды публікуе матар'ялы з народнае беларускае творчасьці, сабраныя у Латгаліі і Ілукштаншчыне, сярод пражываючага тутака беларускага сялянства.

**«Беларуская Школа у Латвіі»** у наступным 1933 г. зьмесьціць шэраг стацей пэдагогічнага характару, як па пытаньням тэорэтычным, так і зьвязаным з штодзённаю практыкаю беларускіх школ. Зьвернута будзе увага і на тое, каб трымаць беларускае настаўніцтва у курсе працы „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, а таксама і іншых вучыцельскіх аб'яднаньняў у Латвіі, у Літве, Эсьціі ды у іншых краінах.

Падпіска на **„Беларускую Школу у Латвіі“** выносіць:

| | |
|---|---|
| за год, з перасылкаю, у Латвіі, Літве, Эсьціі | — 6 латаў, |
| за паўгода „ „ | — 4 „ |
| за месяц „ „ | — 0 70 сант.; |
| за год, з перасылкаю, у іншыя дзяржавы | — 2 амер. даляры, |
| за паўгода „ | — 1. — ам. даляр. |

Тыя грамадзяне, што загадзя, да 20 сьнежаня 1932 году, перашлюць адразу усю падпісную плату за 1933 год, атрымаюць, як **безграшовы** дадак, у прэмію гэткія кніжыцы: 1) К. Езавітаў — „Беларусы у Літве“, 2) К. Езавітаў — „Беларусы у мінулым і сучасным“ і А. Пажытнаў — „Нарысы тэорыі каапэрацыі“.

Грашовыя пераводы і карэспандэнцыю накіроўваць трэба на адрас: Latvijā, Rīgā, Elijā ielā, 20., dz. 25. „Bielaruskaja Škola u Latvii“ Redakcijai.

Матар'ялы, якія накіроўваюцца для друку, павінны быць напісаны **чытэльна** ад рукі, або надрукаваны, пры магчымасьці, на пішучай машынцы. Пісаць і друкаваць трэба **толькі на адным баку** аркуша.

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі.**

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата**
ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—6 лат., за паўгода — 4 латы, асобны нумар — 50 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал. Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. rekins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elijā ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkast № 1362.
Рэдактар па справах часопісу прыймае па аўторках ад 15-ці да 16-ці гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Аплачваць аўтарскія ганорары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

№ 5 (15). Рыга, кастрычнік 1932 году. Год VII.



## Вялікага беларускага пісьменьніка і працаўніка на ніве беларускае школы, грамадзяніна Якуба Коласа, вітаемо з 50-тымі ўгодкамі!

1882 год быў ураджайным на беларускія таленты, у гэтым годзе нарадзіўся наш вялікі паэта Янка Купала-Луцэвіч, у гэтым-жа годзе радзіўся найбольш плодны беларускі драматург Галубок (Уладыслаў Голуб) і, нарэшці, у тым-жа 1882 годзе 22 кастрычніка па стараму стылю, ці 3 лістапада па новаму стылю, у сямейцы лясьніка Міхала Казіміравіча Міцкевіча радзіўся сын Кастусь, будучы выдатнейшы беларускі пісьменьнік і паэта, што піша ў прозе пад псэўданімам Тарас Гушча, а ў паэзыі — Якуб Колас. Бацька пісьменьніка, як зазначае сам пісьменьнік у сваей аўтабіаграфіі*), быў чалавек малаграматны, але добра разумеў карысьць вучэньня, маці Ганна Юраўна з Лёсікаў была зусім няграматнай кабетай, але добрай і разумнай ад прыроды жанчынай. Інтэрас да граматы, вучэньня і кнігі прышчапілі Кастусю браты ягонага бацькі Пятрусь і Антон, і вучыцца ён пачаў рана, нямаль з 5-ці гадоў. Спачатку навучэньне адбывалася дома, у лясьніковай хаце, куды бацька запрасіў з вёскі за тры рублі на ўсю зіму вясковага хлопчыка „дарэктара", які і вучыў два гады Кастуся і ягоных двух старэйшых братоў. Потым усіх трох братоў адправілі ў сельскую школу. Дзяцінныя гады Кастуся прайшлі нямаль у поўным адзіноцтве. Малады паэта рос у цесным кругу сваей сямейкі, якая жыла пасярод лесу, адарванаю ад людзей. Бацька, маці, два дзядзькі ды два браты — вось і ўся грамада. Затое навокал буйна выяўляла сябе беларуская прырода, і ўжо маленькім хлопчыкам пакахаў яе Кастусь і навучыўся прыглядацца да яе і разумець яе прыгожасьць. Гэта і дало магчымасьць Якубу Коласу ў будучыне даць шэраг бліскучых вершаваных малюнкаў беларускае прыроды, якія па сваей натхнёнасьці і прыго-

*) Глядзі нарыс „Да біографіі Я. Коласа" у кнізе Ул. Дзяржынскага — „Якуб Колас у літаратурнай крытыцы". Менск, 1926.

жасьці стаяць вышэй за ўсё напісанае аб прыродзе ў беларускай літаратуры.

Ужо з 12 гадоў пацягнула Кастуся да складаньня вершаў. Пісаў ён спачатку паруску, але пасьля таго, як трапілі да яго ў рукапісу творы беларускага паэты Янкі Лучыны, распачаў Кастусь складаць вершы і на беларускай мове. У 15 гадоў паступіў Канстантын Міцкевіч у Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, якую скончыў у 1902 годзе і быў прызначаны на пасаду вучыцеля ў Палесьсе. У сэмінарыі шмат пісаў ён вершаў, зьбіраў і запісваў народныя творы, якія перадаў потым настаўніку сэмінарыі Кудрынскаму, і нават выступаў з сваімі творамі на сэмінарскіх вечарынах. Кудрынскі аказаўся адным з шчырых беларускіх патрыётаў і зрабіў моцны ўплыў на К. Міцкевіча, парадзіўшы яму пісаць выключна на беларускай мове. Апынуўшыся вучыцелям расейскае школы ў беларускім Палесьсі, Я. Міцкевіч пільна прыглядаўся да навакольнага жыцьця, шмат чытаў рэвалюцыйна - грамадзкае літаратуры і ўсё больш усьведамляўся з боку нацыянальнага і сацыяльнага.

У 1906 годзе мы ўжо бачым Якуба Коласа дзейным удзельнікам беларускага грамадзкага і літаратурнага жыцьця: ён супрацоўнічае ў першых легальных беларускіх газэтах „Нашай Доле“ і „Нашай Ніве“, ён склікае ў 1906 годзе першы нелегальны зьезд настаўнікаў - беларусаў, на якім ставіць пытаньне аб стварэньні беларускае нацыянальнае школы з беларускаю моваю выкладаньня і закладае першы Беларускі вучыцельскі хаўрус. Праца гэта не спадабалася расейскім уладам — К. Міцкевіча ў тым жа годзе звольнілі з пасады настаўніка і аддалі пад суд. Два гады цягнулася сьледства. Паэту пагражала цяжкая кара, але, і звольнены з пасады і аддадзены пад суд і пад надзор паліцыі, ён не спыняў сваей беларуска-адраджэнчае працы: узімку 1906-7 году ён адчыняе **першую беларускую нелегальную школу з 12 вучнямі ў вёсцы Мікалаеўшчына,** па вечарох складае свой першы падручнік для беларускіх школ — „Другое чытаньне для дзяцей беларусаў“ і далей супрацоўнічае ў „Нашай Ніве“; узімку 1907-8 году ён ў маёнтку пана Гарадзялкоўскага ў Магілёўшчыне адчыняе **другую беларускую нелегальную школу.**

15 верасьня 1908 году Віленская Судовая Палата судзіла К. Міцкевіча і засудзіла яго на 3 гады ў вастрог. Седзячы ў Менскай турме, Якуб Колас не пакідае беларускае працы і піша тутака лепшыя свае вершы ды распачынае найбуйнейшы і выдатнейшы свой твор—„Новая Зямля“. Толькі праз тры даўгіх гады, 15 верасьня 1911 году, Якуб Колас быў выпушчаны з турмы. Пасады яму не далі, і два гады ён павінен быў жыць выпадковай працай. Не на хвіліну аднак не закідае ён сваей літаратурнай працы, і як раз ў гэты перыяд часу пачаў ён другую сваю вялікую паэму — „Сымон Музыка“. Толькі ўвосені 1912 году далі яму, нарэшці, пасаду вучыцеля ў Купяцічох (12 вёрст ад Пінску), а адтуль перавёўся ён у Менск у III-е прыходзкае вучылішча. У Пінску ў 1913 годзе паэта ажаніўся з настаўніцаю чыгуначнай школы Марыяй Каменскай, а праз год быў узяты на вайну.

З 1-га студзеня па 1-е траўня 1916 году К. Міцкевіч быў у вайсковым Аляксандраўскім вучылішчы ў Маскве, адтуль быў выпушчаны прапаршчыкам у Перм у запасны полк, з якога трапіў на фронт у Румынію. Там захварэў паэта ліхаманкаю, жаўтухаю, і ад-

начасна распачаўся ў яго працэс у лёгкіх, а таму быў эвакуаваны ў Курскую губэрню у гор. Абоянь, дзе жыла ягоная сямейка. Па дэмабілізацыі працаваў у Куршчыне настаўнікам, а потым школьным інструктарам, і толькі ў 1921 годзе змог нарэшці пераехаць у Менск. У гады вайны і ў Куршчыне паэта пісаў мала і толькі з пярэбарамі ў Менск зноў шырока разгортываецца ягоная літаратурная праца

З твораў яго найбольш вядомыя: 1) „Другое чытаньне для дзетак беларусаў“, надрукавана ў 1909 годзе; 2) „Песьні жальбы“, зборнік вершаў, надрукаваны ў 1910, падчас сядзеньня Якуба Коласа ў турме; 3) „Апавяданьні“, надрукаваны ў 1912 годзе; 4) „Родныя зьявы“, зборнік апавяданьняў, надрукаваны ў 1914 г.; 5) „Сцэнічныя творы“, надрукаваны ў 1917 г.; 6) „Сымон Музыка“, вялікая вершаваная паэма, два разы пісаная нанова, друкавана ў 1918 і 1925 гадох; 7) „Казкі жыцьця“, зборнік апавяданьняў, надрукаваны ў 1921 годзе; 8) „Водгульле“, зборнік вершаў, надрукаваны ў 1922 годзе; 9) „Новая Зямля“, вялікая вершаваная паэма, найпрыгажэйшы твор паэты, надрукавана ў 1923 годзе; 10) „У Палескай глушы“, повесьць, надрукавана ў 1923 годзе; 11) „На прасторах жыцьця“, зборнік апавяданьняў, надрукаваны ў 1925 годзе; 12) „Забастоўшчыкі„ — драма, надрукавана ў 1925 годзе; 13) „Мэтодыка роднае мовы“, надрукавана ў 1926 годзе; 14) „У глыбі Палесься“, повесьць, надрукавана ў 1931 годзе.

У сучасны момант Якуб Колас-Міцкевіч знаходзіцца ў поўным росквіту сваіх сіл і творчасьці, а таму беларускае грамадзтва можа спадзявацца, што атрымае ад свайго паэты яшчэ многа твораў, якія абмалююць нам ня толькі Беларусь мінулага, але і сучасную Беларусь і, магчыма, Беларусь будучага.

Мы горача вітаемо нашага вялікага паэту і настаўніка з ягонымі 50-тымі ўгодкамі жыцьця і 30-тымі ўгодкамі ад пачатку пэдагогічнай працы. Хай прыгожая яго творчасьць разьвіваецца далей і ўзбагачае літаратуру і культуру працоўнага беларускага народу!

**К. Езавітаў.**

**Дапамажэце сабраць матар'ялы аб дачасна памёршым беларускім паэце**

## Якубе Воркулю!

Беларускае Выдавецтва ў Латвіі просіць усіх грамадзян, якія маюць фатаграфіі, лісты, або рукапісы нябошчыка Якуба Воркуля, пераслаць усё гэта ў Рэдакцыю нашага штомесячніка, або паведаміць аб маючыхся рэчах Выдавецтва па адрасу: K. Jezavitaū, Rīgā, Elija ielā № 20, dz. 25. Беларускае Выдавецтва рыхтуе пасьмертны зборнік твораў Якуба Воркуля, а таму зьбірае зара‘ усё тое, што напісаў нечакана памёршы нябошчык (закончаныя і няскончаныя творы, запіскі, лісты да сяброў); усё тое, што захавалася аб ім у яго радні, сяброў і знаёмых — лісты, фатаграфіі, вершы, дакумэнты, а таксама пажадана было-б мець і кароткія ўспаміны паасобных грамадзян аб тых ці іншых перыёдах жыцьця Я. Воркуля і паасобных момантах і здарэньнях.

**Беларускае Выдавецтва ў Латвіі.**

**Беларускае жыхарства дамагаецца, каб Латгальскія партыі выканалі свае перадвыбарныя абяцанкі.**

11-га верасьня ў памешканьні Пустынскай школы адбыўся агульны сход сяброў Пустынскага Аддзелу партыі Л. С. - П. А. („Латгальскае Сялянска-Прагрэсыўнае Аб‘яднаньне“). Галоўным пытаньнем у парадку дня былі справы, зьвязаныя з Рэжыцкім Кангрэсам партыі і выбары дэлегатаў.

Пры разглядзе пункту аб мінулай дзейнасьці фракцый Сойму Л. С.-П. П., Ю. Бука ў сваім дакладзе ахарактарызаваў факты з дзейнасьці Соймавай фракцыі і між іншым падкрэсьліў пасыўнае адношаньне фракцыі і партыі да ўціску меншасьцёвых школ, а таксама і да ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае гімназіі.

Наступны прамоўца, В. Рацынь, у сваей прамове падцьвердзіў пасыўнасьць Соймавай фракцыі адносна ліквідацыі Дзьвінскае Беларускае гімназіі, а таксама безпадставовага звальненьня дырэктара гімназіі С. Сахарава ды ў справе перавядзеньня ў Агульны Дэпартамэнт і закрыцьцё шэрагу беларускіх аснаўных школ на Дзьвіншчыне. Гэтай пасыўнай працай (а мо‘ і сумеснай з гр. Міністрам Асьветы?) да ўціску беларускае меншасьці і партыя не выконвае сваіх абавязак. Беларусы маюць права напомніць Соймавай фракцыі Л. С.-П. А. аб абяцаньнях абараняць правы і школы беларусаў, якія былі дадзены дэпутатамі партыі ў 1932 годзе на беларускай Канфэрэнцыі ў Дзьвінску. Абяцаньні былі ўрачыста дадзены, і за тое беларускае грамадзтва ў Дзьвіншчыне аддало свае галасы за сьпісак К. С.-П. А. Праца была праведзена беларускім грамадзтвам сумленна, і аб гэтым добра ведаюць: і гр. Швіркст, і гр-не Паберзы, і Трасуны ды інш. Аднак, падзякі беларусы не пабачылі: ні ў абарону Дзьвінскай беларускай гімназіі і яе дырэктара, ні ў абарону аснаўных беларускіх школ партыя ня выступіла ні ў Кабінэце Міністраў, ні ў сваей партыйнай прэсе, ні ў Сойме.

Пасьля прамовы гр. Рацынь перадаў прэзыдыуму сходу мэморандум пратэсту на імя Цэнтральнага К-ту Л. С.-П. А., з подпісамі: сяброў-беларусаў Л. С.-П. А., беларускай дэмакратычнай партыі і Т-ва Беларускае Моладзі. У мэморандуме выказаны пратэст з поваду ліквідацыі Дзьвінскае беларускае гімназіі і з поваду перавядзеньня ў Агульны Дэпартамэнт ды зачыненьня беларускіх аснаўных школ, а таксама апратэставапа і звальненьне з пасады дырэктара гімназіі гр. С. Сахарава.

Цікава адзначыць, что супольнае выступленьне беларускіх арганізацый з катэгарычным пратэстам адносна адступленьня партыяй Л. С.-П. А. ад сваіх абяцанак — зрабіла на латгальцаў дужа нечаканае і няпрыемнае ўражаньне. Шмат хто ня ведаў як-жа высьці са становішча, але ў сілу неабходнасьці захаваць на далейшы час добрыя ўзаемаадносіны з беларусамі, каб ня згубіць падтрымку на выбарах з боку беларусаў — змушаны былі згадзіцца і далучыцца да беларускага пратэсту: пастанавілі прыняць рэзалюцыю пратэсту і пераслаць Цэнтральнаму Камітэту партыі Л.С.-П.А, каб тыя ў свой час зрабілі крокі да зьвярненьня страчаных беларускіх школ і гімназіі.

Будзем зара‘ чакаць спаўненьня абяцанкі, і ад выніку яе будуць залежаць далейшыя нашыя ўзаемаадносіны!

**Мясцовы.**

## Зьмены ў Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі.

З таго часу, як было выдадзена распараджаньне міністра асьветы гр. А. Кеніньша аб наступовай ліквідацыі нашай гімназіі, ёй прышлося перажыць шмат цяжкіх хвілін. У працягу аднаго верасьня месяца перапрабавана было шэраг праэктаў і праароблена было шмат экспэрымэнтаў: старэйшыя тры клясы то загадвалі перавесьці у латыскую гімназію, то іх пакідалі на мейсцы, то спрабавалі адчыніць першую клясу, як паралельную пры латыскай гімназіі, то паўставаў праэкт стварэньня яе пры беларускай-жа гімназіі, але у якасьці самастойнае клясы, аднак і па гэты час першай клясы усё яшчэ няма. Зроблены значныя зьмены і у пляне лекцыяў: паваліччаны лік лекцый латыскае і лацінскае мовы ды гісторыі і географіі Латвіі, уведзены новы прадмет—грамадазнаўства, з выкладаньнем яго на латыскай мове, але затое выкінуты такія прадметы, як земляробства і біолёгія.

Асабліва балюча адбіліся зьмены у кіраўніцтве гімназіі. Па нявысьветленым прычынам і зусім нечакана звольнены з сваей пасады дырэктар гімназіі С. П. Сахараў, які больш 7 год нёс цяжкую працу па кіраваньню гімназіяй. Міністр гр. А. Кеніньш у сваей прамове да вучняў гімназіі, пад час візытацыі, адзначыў, што — „гр. Сахараў добры, як чалавек і пэдагог, але ня зусім задавальняючы адміністратар". Але адкуль міністр гэта ведае? І чым гэта даводзіцца? Кажуць, не апошнюю ролю у звальненьні гр. Сахарава адыграў той даклад кіраўніка Беларускага Аддзелу у 1930 г. на імя міністра асьветы, дзякуючы якому з 1 студзеня 1931 г. гр. Сахараў быў дэградыраваны з дырэктара на „выконываючага абавязкі дырэктара".

Як-бы там ні было, але беларуская гімназія асталася зара' без беларускага дырэктара. Замест гр. Сахарава часовае кіраваньне гімназіяй, спачатку ускладзена было міністрам асьветы на дырэктара Дзьвінскай латыскай гімназіі гр. Обштэйна, які кіраваў гімназіяй толькі у працягу 3 тыдняў, з 30 жніўня па 21 кастрычніка, а з гэтае даты дырэктарам гімназіі прызначаны дэкан Дагдзенскага касьцёлу кс. Я. Чаман.

Кажуць, што кандыдатура кс. Я. Чамана высунута партыяй Латгальскіх крысьцігаў, якія абяцаліся дамагацца ад міністра асьветы адчыненьня першай клясы і, нібыта, яна хутка будзе адноўлена.

У пэдагогічным складзе таксама адбыліся зьмены: не дапушчаны да далейшага выкладаньня латыскае мовы Ю. Ю. Пантэвіч, які працаваў у гімназіі з 1 лютага 1925 г.; звольнены з пасады інструктара сталярнай майстэрні гр. У. М. Ціхаміраў (затое, нібыта, што ён у 1928 г. быў кандыдатам у Сойм па сьпіску незалежных сацыялістаў. Цікава аднак, што у працягу чатырох год пасьля гэтага кандыдаваньня гр. Ціхаміраў выконываў свае абавязкі інструктара і ніхто яго не чапаў, а зара' ён чамусьці стаўся пакараным. Захады Школьнае Рады гімназіі і Рады Беларускага Аддзелу, якія прасілі гр. міністра асьветы дапусьціць гр. Ціхамірава да далейшай працы, асталіся бяз вынікаў). Прызначаны у гімназію цэлы шэраг вучыцялёў не-беларусаў і ня ведаючых беларускае мовы. Новыя вучыцялі у гімназію прызначаны гэткія: на латыскую і лацінскую мовы гр. Юрэвіч, на грамадазнаўства — гр. Озолінь, член Латгальскага Вакруговага Суда, па гісторыі і географіі — гр-ка Фрэйманіс (?), на маляваньне — гр. Калейс і інструктарам сталярнай майстэрні дапушчаны гр. Капылоў, адзіны, які скончыў беларускія вучыцельскія курсы.

Беларускае грамадзтва прыглядаецца зара' да усіх гэтых зьмен, аднак ня траціць надзеі на тое, што і пры абноўленым пэдагогічным складзе гімназіі — яна не перастане быць беларускай. Асаблівыя надзеі ускладаюцца у некаторых беларускіх колах на новага дырэктара кс. Я. Чамана, пра якога гавораць, што ён, хаця і вялікі латыскі патрыёта, але даволі аб'ектыўны чалавек і не хварэе на прадузятасьць што датычыцца беларусаў і беларускага адраджэнчага руху.

Наколькі усе гэтыя надзеі маюць пад сабою грунт — зара' казаць цяжка. Пажывём — угледзім!

Наколькі удачным было, наагул кажучы, даручаць кіраваньне беларускаю гімназіяй, вучні якой належаць да розных спавяданьняў, духоўнай асобе, — гэта пытаньне надзвычайна важнае і усю адказнасьць за гэты крок і яго вынікі, беларускае грамадзтва ускладае на кіраўніка Беларускага Аддзелу, які правадзіў гэтую кандыдатуру у Школьнай Радзе гімназіі без паразуменьня з беларускім грамадзтвам. Зусім зразумела, што далейшы лёс гімназіі будзе залежаць ад такту і ад ступені прыхільнасьці да беларусаў нованазначанага дырэктара.

Мы шчыра жадаем, каб ахвяры, прынесеныя беларускім грамадзтвам і Дзьвінскай беларускай гімназіяй, былі **апошнімі** ахвярамі і каб, нарэшці, праца гімназіі зноў увайшла у нармальныя рамкі. **Гімназіяльны.**

## Водгукі ў беларускім грамадзтве з поваду замаху на Дзьвінскую гімназію.

Беларуская меншасьць у Латвіі займае дужа цікавае становішча у грамадзкім жыцьці Рэспублікі: беларусы, ня гледзячы на сваю славянскую этнічную блізасьць да вялікарускае і польскае меншасьці, ня могуць палітычна зьблізіцца з гэтымі дзьвюма меншасьцямі, бо павадыры гэтых меншасьцяў маюць адносна беларусаў асыміляцыйныя імкненьні; таму беларуская грамадзкасьць, з боку палітычнага, адчувала сябе да гэтага часу больш блізкай да імкненьняў і ідэалаў прагрэсыўнае большасьці латыскага народу. У гэтым напрамку рашуча арыентаваліся усе палітычныя і культурна-асьветныя беларускія працаўнікі і кірункі. Зара', апошнія удары па беларускіх школах, унясьці у гэтыя настроі беларусаў гучныя, непажаданыя і нечаканыя дысанансы.

Абурэньне і пратэсты, з якімі спаткала беларускае грамадзтва у Латвіі спробу міністра асьветы гр. Аціса Кеніня разбурыць і зьліквідаваць Дзьвінскую Дзяржаўную Беларускую гімназію, ахапіла ня толькі латвійскіх беларусаў, але і усё беларускае грамадзтва наагул, як у Заходняй Беларусі гэтак і у Літве, у Радавай Беларусі і у розных краінах Заходняе Еўропы, дзе жыве беларуская эміграцыя. Беларуская прэса, бяз розніцы палітычных кірункаў, горача і войстра пратэстуе супроць гэтага новага паходу супроць беларускае меншасьці у Латвіі і канстатуе, што гэты паход можа сапсаваць тыя шчыра-прыяцельскія адносіны, якія, ня гледзячы на шэраг непаразуменьняў і яўнае абразы беларускага нацыянальнага пачуцьця, усё-ж-ткі аж да самага апошняга часу існавалі у беларускім грамадзтве у адношаньні да Латвіі.

Перадрукоўваючы нашу стацьцю „Замах на Дзьвінскую Беларускую Дзяржаўную гімназію“ з № 4 (14) штомесячніка „Беларуская Школа у Латвіі“, беларускія газэты зазначаюць, што зара' наносіцца удар ужо не паасобным адзінкам, палітычны кірунак працы якіх не падабаўся кіруючым латыскім колам і урадоўцам, а усей беларускай нацыянальнай меншасьці у Латвіі і яе нацыянальна-асьветнай працы.

Калі сем год таму назад зачынена была Люцынская Беларуская Дзяржаўная гімназія—гэта тлумачылася „адсутнасьцьцю сродкаў“, дзякуючы шкодным для беларускае меншасьці вынікам перапісу 1925 году. Калі зачынялі адну за аднэй шэраг беларускіх школ у буйнейшых цэнтрах Латгаліі, на мяжы з Радавай Беларусьсю, і замест іх адчынялі тутака сярод беларускага жыхарства латыскія школы—гэта тлумачылі усплыўшымі тутака расейска-беларускімі спрэчкамі за гэтыя школы. Калі у гэтыя новыя латыскія школы не дапушчалі ніводнага вучыцеля-беларуса і не выкладалі у іх беларускае мовы, хаця-ж дапускалі мову расейскую, — дык і на гэта знаходзіліся розныя адгаворкі. Зара' ніякіх адгаворак зрабіць немагчыма. Латгальскія беларусы маюць права на сваю сярэднюю школу і асьвету у свасй мове, а у іх гэтую школу і асьвету адбіраюць.

Гэта грунтоўна зьмяняе усю абстаноўку беларуска-латыскіх узаемаадносінаў і кладзе пачатак да такіх непажаданых і шкодных для абодвых народаў непаразуменьняў і настрояў, аб выніках якіх зара' і гутарыць ня хочацца. Таму ня дзіва, што ня толькі беларуская прэса, якая ня хоча псаваць беларуска-латыскіх адносінаў, б'е трывогу, але і беларускія грамадзкія арганізацыі ня толькі у Латвіі, але і па-за-межамі яе, робяць усе высілкі, каб перакаканаць латыскае грамадзтва і Урад у шкоднасьці „новага кірунку“ міністэрства асьветы.

Мы атрымалі весткі, што беларускія арганізацыі за-межамі зьвярталіся з пратэстамі нават у Латвійскія пасольствы. Цікава пры гэтым адзначыць, што у адным з пасольстваў, запэўняючы беларускую дэлегацыю, што латыскі народ прыхільна ставіцца да беларусаў, тлумачылі меры супроць Дзьвінскае гімназіі тым што яна зьяўляецца „гняздом камунізму!“

Да якое бязглуздасьці могуць дайсьці некаторыя людзі, апраўдываючы няўдалыя крокі начальства!

Мы верым, што латыскі працоўны народ запраўды супроць нас нічога ня мае. Мы зьяўляемося шчырымі апалёгетамі беларуска-латыскага сяброўства і запраўднага еднаньня, а таму мы патрабуем, каб беларусаў пакінулі, нарэшці, у спакою і каб беларускай меншасьці далі магчымасьць без перашкод весьці сваю культурна-асьветную працу!

Ня у меру старанныя чыноўнікі, што разбурываюць беларуска-латыскае еднаньне, павінны быць належнымі уладамі супакоены.

Дзьвінская Беларуская Дзяржаўная гімназія павінна зноў прыступіць да працы з поўнаю лічбаю клясаў. Даволі ужо зьдзёрганы нэрвы і вучнёўскай моладзі, і бацьком вучняў, і настаўнікам і усяму беларускаму грамадзтву у Латвіі!

К. Адраджэнец.

## Лясьнікова сена*).

Цяпер я не магу спамінаць гэтага бяз сьмеху, але тады — мне было зусім ня сьмешна.

Я толькі што перайшоў літоўскую граніцу. Памятаю, што бабуля, якая мяне веравяла акопамі, праз самыя страшныя мейсцы, і якая мне дала на дарогу добрую порцыю хлеба з маслам, — пры разставаньні сказала:

„Ну, далей, я не пайду! — Тут ужо латышы. Яны могуць мяне злавіць. Ідзі — вось гэтай дарогай, проста, нікуды не заварачываючы“.

Яна паказала пры гэтым рукой па роўнай дарозе, выхадзіўшай з лесу ў адкрытае поле.

„Так гэта ўжо Латвія?“ — спытаў я ў надзвычайным зьдзіўленьні.

Мне маляваліся надзвычайныя эпізоды — пагоня, пабег, стрэлы... І раптам, зусім проста, — быццам з мяжы аднаго поля, пераходзячы на мяжу другога, — я перайшоў граніцу. Мне хацелася расцалаваць ад радасьці бабулю, але пакуль я агледзіўся, яна была ўжо далёка ад мяне. Толькі вецер разьвіваў канцы яе хусткі ды, фалды спадніцы, нагадываючы нейкую гэроіню рамантычнай фільмы.

Я спакойна адпачнуў і пашоў. Праз які час зблудзіў, ледзь не наткнуўся на прахадзіўшага полем, з патупленай у зямлю галавой, літоўскага пагранічніка, але нейкім цудам захаваўся за сасну і застаўся незаўважаным. Потым чуў у лесе нейкія выстралы, — ня то паляваньня, ня то пагранічнай варты, — уцякаў. І вось, нарэшці, выйшаў на вялічэзны гасьцінец, што вядзе ў мой родны Дзьвінск.

Я свабодна ўздыхнуў. Так вось яна, мая Бацькаўшчына, дзе калісьці ўсё пенілася, іскрылася ўсімі фарбамі вясёлкі, дзе прайшло балей чым мінуўшы-забыты—час маё мілае, сьветлае plusguamperfectum. І ўсё-ж-ткі, цяпер Бацькаўшчына ня тая, і я ня той: няма пражытых гадоў, зламаных і зьнішчаных сіл.

Пакуль я так, поўны лірыкі, сядзеў на берагу дарогі, зьвесіўшы ногі ў канаву, калі гляну — што за ліха! — ляціць проста на мяне з усей сілы падвода. На падводзе відаць некалькі чалавек, ня інакш як мяне забіраць. „Што-ж?“ — думаю: — уцякаць няма куды. Пайду сьмела наперад“. А ў галаве ўжо заскакалі магчымыя тлумачэньні, чаму я апынуўся ў гэтай пагранічнай паласе.

Пад‘яжджае падвода бліжэй, яшчэ бліжэй. У мяне сэрца замёрла, — нават чую, што ня б‘ецца. Вось ужо ногі не магу падняць, язык адымае, горла сохне. Ну, думаю, вось і перайшоў граніцу!

Раптам, падвода раўняецца са мной, і барадаты старавер, кіруючы канём, крычыць:

„А, маладзец, чакай мяне на адваротным шляху!“ І падвода пакаціла далей з сядзеўшымі на ей людзьмі, якіх я нават не пасьпеў і разглядзець.

---

*) Апавяданьне гэтае было напісана нябошчыкам В. Вальтарам у 1929 г., за 2 гады да ягонае сьмерці, падчас побыту яго ў Інчукалнскай Вучыцельскай Санаторыі для сухотнікаў, і пераслана ім самім у нашу Рэдакцыю. Аднак, выходзе апавяданьне ў сьвет толькі зара‘, дзякуючы перарыву ў выхадзе нашага часопісу. (Заўвага Рэдакцыі).

Іду далей, лаю сябе за трусасьць, плююся на ўсе бакі дарогі ды лаю ня ў час вясёла праглянуўшае сонца. Ісьці стала зусім немагчыма, ня тое што зраньня, калі дождж ліў, як з вядра, і ўсе пагранічнікі пахаваліся.

Іду. Да Дзьвінску яшчэ далёка. Каб было весялей, лічу белыя камені, пастаўленыя па бакох гасьцінца. Раптам чую, нехта едзе за мной. Аглядаюся — тая самая падвода, якую я спаткаў раней. Едзе адзін.

„Ну, паедзем?“ — пытае мяне той самы барадаты старавер.

„Паедзем, калі падвязеш!“ — адказваю я.

„Ну, так колькі дасі?“ — пытае ён зноў мяне.

Пачалі таргавацца. Я толькі тое і казаў, што хвост яго каню не адваліцца, калі ён мяне падвязе, бо ўсё-ж роўна ён едзе паражняком. Ен, нарэшці, сьцябануў па каню й паехаў.

Усе магчымыя й немагчымыя праклянцьці сыпаў я на яго галаву, бо адчуваў, што ў меня ўжо пяткі баляць і мускулы на нагах нацягнуліся да таго, што я хутка зусім не змагу йсьці. Ну, усё раўно... Іду, поўны гневу на род людзкі, і філёзофскі развважаю, што „чалавек — самая жорсткая жывёла“. Ніколі ён лепш сябе не адчувае, як у часы інквізыцый, жорсткіх воін, жахлівага тэррору. Іду, а ў душы ўстае нота з „Дэмана:“ — „Пракляты сьвет, ганебны сьвет!“

Раптам — гляжу й ня веру. — Старавер спыніў каня й чакае. Я йду міма, пэўны, што не мяне.

„Ну, сядай ужо! Так і быць—падвязу“—кажа ён зненацку.

Я быў проста зьбіты гэтым. „Ну“, думаю: „усё-ж-ткі чалавек не такі дрэнны. Відаць — добрае сэрца. Не, сьвет зусім не такі дрэнны!“

Едзем. Я пытаю, каго ён адвазіў. Ен кажа, што жыдкоў на кірмаш у Літву. Яны едуць туды кождую нядзелю. Пад‘йджаем далей. Насустрэч нам паўзе воз з сенам. Вялізарны воз, а наперадзі вядзе каня нейкі худы, высокі чалавек у форме лясьніка. Баба сядзіць на вазу й трымае лейцы. Мы хутка праехалі міма яго і праз нейкі час аказаліся ўжо ў значнай ад яго адлегласьці. Гляджу, мой фурман спыняецца, выскаківае з возу й давай накладываць сена, толькі што пакошанае й ляжачае на краю дарогі для прасушкі, — у свой воз.

Убачыўшы, што мой прыяцель працуе,—я адчуваю, што мне нязручна сядзець у гэты час на калёсах. Я саскакваю й, поўны ўдзячнасьці да гэтага добрага чалавека, падвёзшага мяне, стараюся пакласьці паболей ахапак сена на воз ды мяркую, каб кождая ахапка была як мага больш.

„Годзі!“ — кажа фурман.

У гэты час аглядаецца далёка ўжо ад нас ад‘ехаўшы, лясьнік: „Дзяржы іх!“—крычыць ён: — „Дзяржы!“ І сам ляціць да нас.

Мой фурман сядае на каня і ўва ўвесь дух ляціць па гасьцінцу. Ясна, што лясьніку нас не дагнаць. Наперадзі ня відаць ні жывой душы. Мне робіцца сьмешна. Я сабе думаю: — „Ня зловіш!— Насып каню солі на хвост!“

Тым часам на небасхіле паказываюцца дзьве мускія постаці, нешта нясучыя ў руках. Лясьнік ува ўсё горла крычыць: „Дзяржы іх! — Дзяржы іх!“

„Здаровыя лёгкія“ — думаю — „у гэтага лясьніка! — Кры-

чыць — аж за тры вярсты чуваць!“ І зноў мне робіцца сьмешна. Я пэўны, што тыя мужчыны, якія йдуць нам насустрэч, нас чапаць ня будуць. Якая ім справа да нас!

Між тым, дзьве постаці ўжо набліжаюцца. Я бачу, што абедзьве яны абтепленыя фарбамі ды вапнай, з вёдрамі й пэндзэлямі ў руках, — пэўна маляры. Лясьнік ужо не ляціць, а йдзе звычайным крокам. І вось разам:

„Стой!“ — Маляры схапілі каня за морду й ня пушчаюць.

Мне здавалася, што мой фурман зробіць нешта энэргійнае, а потым — па каню! — і толькі нас бачылі. А ён сядзіць спакойна і чакае, пакуль падляціць лясьнік.

„Ну, дзеля якога ражна вы затрымалі нас!“ — кажу я. — „Якая карысьць вам ад гэтага?“

„А мы працуем у гэтага лясьніка. Ня можам!“ адказваюць яны.

Зьдзіўлены, зьнішчаны ўсей выпадковасьцяй трапіўшагася — я таксама сяджу на крадзеным сене й чакаю лясьніка.

„А, вам сена красьці! — Казёнае сена, злодзеі!“ — зарычаў на нас лясьнік. — „Сядайце, хлопцы, — павязём іх да дарожнага масьцера.

Муляры з лясьнікам ускочылі ў калёсы, паціснулі мяне як трэба быць, і мы ўсе пяцёра паехалі на суд гэтага вялікага чалавека, дарожнага масьцера!

Я ўсю дарогу маўчаў. Толькі мне было неяк дзіўна, што лясьнік усё нешта шаптаўся з старавёрам і потым усё скоса пазіраў на мяне.

Пад‘ехалі да мураванага доміку. Навокал — сад, далей відаць засеянае поле, наагул чалавек жыве панам. Лясьнік выскаківае і падымаецца па дарожцы. Насустрэч яму выходзе здаровы, таўсты, сярэдняга росту мужчына, з тыпічным тварам дзясятніка, а за ім выскаківае ўся яго дзетвара і, пераваліваючыся з аднага тоўстага боку на другі, як качка, выплывае жонка.

Лясьнік зрабіў начальству нейкі даклад.

„А! — так вы так! — Знача, казёнае сена красьці! Ды вы ведаеце, што вам за гэта будзе?“

„Пан майстар!“ — кажа старавер, показываючы на мяне! — Гэта не я, гэта — ён!“

„А! — так гэта ты, злодзей! Сёньня сена ўкраў, а заўтра каня ў мяне ўкрадзеш!“

Мяне забрала злосьць. Я ня мог выцярпець асабліва таго, што фурман мог сказаць такую брахню. Фактычна навошта мне сена, калі ў мяне ні каня няма, нічога. Калі-б мяне мой фурман папярэдзіў, што гэта сена казёнае, ды калі-б ён сам ня браў яго, дык я ніколі-б і не падумаў аб гэтым сене. Заместа таго, каб адразу апраўдывацца, я проста пачаў грубіць майстру.

„Прашу не крычэць!“ — сказаў я: — „Я не такіх бачыў, як вы, ды й то!..“

„А, то ты так!—камуніст, сукін сын!“—крыкнуў ён на мяне.

Мяне быццам выцялі кнутом па твары. Так вось куды справа зайшла, з-за простае ахапкі сена! Я зразумеў у адну мінуту сваё становішча. Усе прысутныя былі проціў мяне.

Фурман, я цяпер толькі дагадаўся, шопатамі нагаварываў лясьніку аб тым, што бачыў мяне каля мяжы і што я, пэўна-ж, ка-

муністы. Ен выгарадзіў гэтым сябе са справы з сенам. Уся сіла абвінавачаньня падала на мяне. А дакумэнтаў у мяне ня было ніякіх, апрача некалькіх літоўскіх пасьведчаньняў. Чым я мог давесьці гэтым людзям, што я не камуністы.

І наскольні я раней сьмяяўся з усяго гэтага, як з вясёлага здарэньня пасьля пераходу граніцы, настолькі я цяпер зразумеў усю сур'ёзнасьць свайго становішча. Сэрца маё ўпала. „Вось і перайшоў граніцу!" — мільганула іскрай ў маім мазгу. А воддаль так прывабна, так прыгожа падніmаліся будынкі і блішчэлі царквы даўно чаканага Дзьвінску.

Я замаўчаў. Я кінуў некалькі поглядаў на жонку майстра і на яго дзяцей і мне чамусьці падумалася: „Вось жа, які зусім мірны здаецца, чалавек, і жонка, і дзеці, а не — глядзі! — так і хоча другога ўтапіць". Зноў успаміналася лацінская пагаворка: „Чалавек чалавеку — воўк ёсьць".

Лясьнікова-ж жонка стаяла нахмурыўшы чало і здаецца гатова была мяне пабіць.

„Адвясьці яго ў паліцыю!„ — загадаў майстра.

„Трэба яго зьвязаць, а то ўцячэ, сукін сын!" — сказаў мой фурман. Ен цяпер стараўся быць паслушным і, ад радасьці, што запамяталі пра яго злачынства, стараўся нават папярэдзіць усіх. Ен парыўся ў сваіх калёсах, але, на маё шчасьце, вяроўкі не знайшоў.

Ня ведаю, ці майстра не хацеў ісьці сам да хаты, ці спадзяваўся, што я і так не ўцяку, толькі ён загадаў: „Ды вязіце так! Годзе вам вазіцца з ім. Хутчэй, а то ўжо вечар!"

Худы лясьнік і барадаты старавер селі ў калёсы, пасадзіўшы мяне паміж сябе, і мы ўва ўвесь пыл паляцелі па гасьцінцу. Майстра і муляры доўга глядзелі нам усьлед, пакуль мы ня зьнiклі з іх вачэй.

І вось, мы на Грыве. Шырокая Дзьвіна вабіць мяне, — хутка мы пад'едзем да перавозу. Я ведаю гэта мейсца. Вось бы лодка! — Тады Дзьвіна — найлепшы абаронца. Лясьнік і фурман закурылі. Фурман усю дарогу маўчаў, і толькі збоку я бачыў, як ён усьмяхаўся ў сваю бараду Лясьнік перагнуўся зусім праз калёсы да фурмана дастаць вагню.

У гэты момант я скочыў з калёс. Мінута — і я быў бы вольны. Але барадаты фурман неяк спрытна пасьпеў схапіць мяне за руку, лясьнік апамятаўся і зноў увапіў мяне ў калёсы.

І так я, усё-ж-ткі, з-за сена апынуўся ў паліцыі.

Зьнялі дапрос. Пасадзілі ў студзёную. І доўга яшчэ прымусілі пакутаваць мяне за пераход граніцы. А ўсяму віной была толькі маленькая ахапка сена.

Ну, што вы цяпер на гэта скажаце? **В. Вальтар.**

---

### Да ўсяго сьвядомага беларускага грамадзтва.

Паважаныя грамадзяне! Па нябошчыку Віктару Вальтару асталася пiдзе яшчэ не друкаваная значная літаратурная спадчына, сярод якой выдатнейшым творам зьяўляецца вялікі раман „Роджаныя пад Сатурнам". Раман апісвае жыцьцё беларускага студэнцтва і грамадзтва у Празе-Чэскай і мае значаньне ня толькі з літаратурнага, але чыста гістарычнага боку. Беларускае Выдавецтва рыхтуецца да выданьня гэтага раману і запрашае усё беларускае грамадзтва падтрымаць гэта выданьне шляхам папярэдняе падпіскі і паявых узносаў. Адзін пай каштуе 20 лат.

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі.**

---

## Ахова помнікаў старажытнасьці на Віцебшчыне.

(З матар'ялаў Беларускага Навукова-Краязнаўчага Таварыства у Латвіі).

(Працяг).

Прыймаючы пад увагу тое, што весткі гэтыя маглі быць здабыты і ад прыватныхъ пэрсон і ад уладароў помнікаў, радзілася „ўвайсьці ў зносіны з гэтымі пэрсонамі і прыстойным чынам прасіць іх аб дапамозе“.

Віцебскі губэрнатар, праз паліцыю, затрабаваў гэтыя весткі. Былі атрыманы вельмі кароткія весткі аб Віцебскім Замку, аб Віцебскай Благавешчанскай царквы [1]), аб царквы Спаса каля Полацку і ішныя. Навуковага значаньня ўсі гэтыя данясеньня ня маюць; ніякіх зьнімкаў і плянаў ў начатай для гэтага справе няма [2]).

Праз дзесяць гадоў ў 1837 годзе, Міністэрства Унутранніх спраў зноў загадала Віцебскаму губэрнатару сабраць і пераслаць ў Міністэрства весткі аб усіх існуючых ў губэрніі старажытных будынках і іншых помніках старажытнасьці. Весткі былі запрошаны ад паліцэйскае улады і земскіх судоў. Па Віцебшчыне было атрымана ўсяго два станоўчых адказа, якія і прыводжу:

„У горадзе Вяліжу, над ракой Дзьвіной і ручаём Конеўцам, у старажытны час быў замак, каля якога, з аднога боку, ад руччa ў Дзьвіну працякаў і зара працякае ручай; цераз роўі ручай былі масты, а над імі з унутранняга боку замку пры выезду, меліся, з жылымі пакоямі ў два паверхі, дзьве з выезднымі брамамі башні. З усяе замкавае пабудовы захаваўся толькі каменны, крыты-чарапіцай, дом, які быў куплены ад казны дваранінам Павалам Яцкевічам“.

З Полацку наведамілі, што: „У Полацку ёсьць дом, у якім жыў Пётра Вялікі; на доме маецца каменны надпіс: „Anno 1692 mensis Oktobris die 4-to“; час пабудовы дому невядомы; ў часе пажару 15 ліпеня дом абгарэў“.

Акрамя гэтага дому, паліцыя ў старым Полацку не знашла іншых помнікаў старажытнасьці, і толькі па загаду губэрнскай улады, прыслала вельмі кароткія апісаньня Спаса—Апрасіньняўскага і Барысаглебскага манастыроў.

Гэткімі былі рэзультаты першых спроб рэгістрацыі помнікаў старажытнасьці на Віцебшчыне.

Аднак, сурьёзныя крокі, распачатыя імпэратарам Міколай І ў справе аховы помнікаў старажытнасьці, на Віцебшчыне не прапалі дарма. Пры ім, на грошы, адпушчанныя з казны, быў адрэмантаваны адзін з самых старых помнікаў старадаўнага будаўніцтва — храм Спаса ў Полацку.

Па стану гэтага храму да рэмонту можна разважаць, ў якім становішчы знаходзіліся ў той час помнікі старажытнасьці на Ві-

---

[1]) Дѣло Витебской Городской Думы 1827 г. № 15. По отношенію Витебской Городской полиціи о доставленіи въ оную свѣдѣнія, нѣтъ ли въ городѣ Витебскѣ остатковъ древнихъ замковъ и крѣпостей или другихъ зданій древности.

[2]) Дѣло Витебскаго Губернскаго Правленія 1827 г. № 12—21. По циркулярному предписанію г. Управляющаго Министерствомъ Внутреннихъ Дѣлъ отъ 31 декабря 1929 г., о собраніи и доставленіи свѣдѣній объ остаткахъ древнихъ зданій.

А. Сапуновъ, Памятники временъ древнихъ и новѣйшихъ въ Витебской губерніи, Витебскъ, 1903, 3—6.

цебшчыне. Спаская царква каля Полацку, помнік XII стагодзьдзя, ў 1832 годзе знаходзілася ў веданьні арэндатара па-іезувіцкіх маёнтках. Храм стаяў бяз вакон і дзьвярэй; сьценныя малюнкі былі ў многіх мейсцах папсаваны выдрапанымі на іх імёнамі, прозвішчамі і надпісамі. На многіх абразах вочы сьвятых былі вынізаны. Сьляды куль відаць былі ў абразох. Прыробленая іезувітамі круглая глава абвалілася. Дах храма складаўся часткай з саломы, часткай з чарапіцы, часткай з гонту [1]).

Пачынаючы з саракавых гадоў XIX старагодзьдзя, як польскія, гэтак і расейскія вучоныя пачынаюць больш цікавіцца помнікамі старажытнасьці на Віцебшчыне. У 1841 годзе А. Кіркор і Прахаў робяць шэраг доследаў помнікаў [2]). У 1852 годзе мясцовы дасьледчык К. Гаворскі робіць, з мэтай архэалогічных досьледаў, паездку з Полацку ў напрамку так званай „Альгердавай дарогі", якая па гістарычным данным, цягнулася з Літвы праз Глыбокае, Полацак і Віцебск да мяжы былой Маскоўскай дзяржавы [3]).

Што тычыцца ўраду, дык ён ўсё больш і больш выяўляе імкненьня паставіць помнікі старажытнасьці пад ахову законадаўства. У палове XIX стагодзьдзя гэтаму пытаньню прысьвечаны ужо цэлы шэраг стацей. Найстражэй было забаронена руйнаваць астаткі старажытных замкаў, цытадэляў, помнікаў і іншых будынкаў старажытнасьці [4]). Нагляданьне за захаваньнем старажытыых замкаў і іншых старадаўнасьцяй ускладзена было на абавязкі будаўнічых і дарожных камісій [5]). Законам была прадугледжана папраўка будынкаў гэткага роду [6]), таксама выдаткі на папраўкі і падтрыманьне старажытных будынкаў [7]). З гэтых будынкаў належалі папраўцы і пачынцы толькі тыя, ў якіх меліся якія колечы памешканьні; ў іншых належалі пачынцы і падтрыманьню толькі брамы.

Прадугледжаны былі і знаходкі старажытных грошаў, зброі і іншых рэчаў, зробленых на зямлі казённых маёнткаў дзяржаўнымі сялянамі [8]). Вымагалася, каб, пры генэральным межаваньні, ў эканамічныя часопісы ўлучаліся весткі аб старажытных курганох, пяшчэрах і іншых выдатных прадмэтах [9]).

Справа па зьбіраньню вестак аб старажытных будынках і нагул аб знахадзімых старажытнасьцях таго часу была ўскладзена на Дэпартамэнт Агульных Спраў Міністэрства Унутранніх Спраў [10]). На мейсцах нагляданьне за знахадзімымі прадмэтамі старажытнасьці

---

[1]) Дѣло Витебскаго Губернскаго Правленія 1832 г. № 27—2. По отношенію епископа Могилевскаго и Витебскаго Гавріила о Спасской Церкви.

А Сапуновъ, Полоцкій Спасо-Евфросиніевскій дѣвичій монастырь, Витебскъ, 1888, 4.

А. Сапуновъ, Памятники временъ древнихъ и новѣйшихъ. 9—11-

[2]) Дѣло Витебскаго Губернскаго Правленія 1841 г. № 34. По отношенію графа Клейнмихеля о Праховѣ и Киркорѣ, ѣздившихъ осматривать Онуфріевскую церковь.

[3]) Вѣстникъ Юго-Западной Россіи, Кіевъ, 1863, I, 129—140.

[4]) Сводъ законовъ Россійской имперіи, 1857, XII, статья 181.

[5]) Ibid., статья 40, пунктъ 5.

[6]) Ibid., статьи 182, 531.

[7]) Ibid., статья 183.

[8]) Iibd., X, статья 539, примѣчаніе 3, приложеніе III, пункты 8—16.

[9]) Законы межевые, 1857, статья 632.

[10]) Сводъ Законовъ Россійской имперіи, 1857, I, статья 1311, пунктъ 5.

ставілася ў абавязак станавых прыставоў. Апошнія, знахадзімыя прадметы абавязаны былі прадстаўляць ў Земскі Суд, дзеля адсылкі іх губэрнскаму начальству [1]).

Ня гледзячы на існаваньне законаў аб захаваньні знахадзімых старажытнасьцяў, з усіх выпадкова знойдзенных, толькі нязначная частка іх пасту пала ў дзяржаўныя зборы старажытнасьцяў, і рабілася набыткам навукі. Большай часткай яны — альбо зусім прападалі, альбо чуткі аб іх паяўляліся пасьля доўгага часу па іх адкрыцьці, калі ўжо ня было ніякай магчымасьці ня толькі адшукаць знойдзенныя рэчы, але і сабраць належныя весткі аб тым, што знойдзена, і аб найбліжэйшых абставінах пры якіх зроблена была знаходка [2]).

У 1863 годзе ў Віцебску адчыніўся Губэрнскі Статыстычны Камітэт, ў заняткі якога ўваходзілі і вучоныя працы, маючыя мэтай досьлед губэрні ў розных адношаньнях, у тым ліку, зразумела, і ў гістарычным. З гэтага часу дбаньне аб помніках старажытнасьці перайшло да камітэту.

Увясну 1863 году Імпэратарская Археолёгічная камісія зьвярнулася да Віцебскага Губэрнскага Статыстычнага Камітэту, запрашаючы яго сяброў дапамагчы ёй ў выяўленьні наяўных помнікаў старажытнасьці [3]). Камітэт ухваліў: сабраць, на першы раз, па магчымасьці дакладныя весткі аб зямельных помніках старажытнасьці [4]). Запытаньні ў гэтай справе былі разасланы розным урадовым пэрсонам губэрні. Апрач таго паліцыі было загадана паведаміць камітэт аб маючыхся быць зямляных працах, дзе існавалі старажытныя гарадзішчы валы, курганы, адным словам, дзе можна разлічаць на якія — колечы археолёгічныя знаходкі.

У ліпеню месяцы 1864 году Губэрнскі Статыстычны Камітэт меў па беларускім паветам губэрні ўжо весткі аб 501 кургану і 12 гарадзішчах. Дадаўшы гэтыя весткі данымі яшчэ аб 202 курганох і гарадзішчах і аб знаходках па — за курганамі, а таксама весткамі аб хрысьціянскіх старажытнасьцях, сэкратар камітэту Аляксанадр Сементоўскі ў 1867 годзе друкуе стацьцю „Памятники старины Витебской губерніи“ [5]) да якой дакладае археолёгічную мапу гэтай губэрні.

У сувязі з распачатаю рэгістрацыяй помнікаў старажытнасьці, ў адкрытый ў 1867 годзе пры камітэту музэй месцовых старажытнасьцяй сталі паступаць знахадзімыя ў розных месцох старадаўныя рэчы. Другі збор помнікаў старажытнасьці, які належаў даследчыку Лепельскага павету Міхалу Кусьцінскаму, быў ужо настолькі цікавым, што на яго каллекцыі была зьвернута ўвага вучоных па этнаграфічнай выстаўцы ў Маскве [6]).

Спроба Дэпартамэнта Агульных Спраў Міністэрства Унут-

---

[1] Ibid., II ч. 1, 2761.

[2]) Сѣверная Почта, С.-Петербургъ, 1869. № 36.
Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1869, № 49.

[3]) Циркуляръ Центральнаго Статистическаго Комитета, 27 апрѣля 1863 г. № 63.

[4]) Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1863, № 47.

[5]) Памятная книжка Витебской губерніи за 1867 годъ, С.-Петербургъ, 1867, 141—205.

[6]) B. Brežgo. Muzea Witebskie. Ziemia, 1926, № 15—16.

рашніх Спраў сабраць у 1866 годзе [1]) весткі аб старажытных будынках і наагул знахадзімых старадаўнасьцях у Віцебшчыне — ня мелі ніякіх вынікаў.

Польскае паўстаньне 1863 году таксама адбілася на помніках старажытнасьці. У 1864 годзе з-за страху, каб паўстанцы ў часе боек з войскам ня скарысталіся сьценамі, як прыкрыцьцем, была зруйнавана ў Віцебску старадаўняя царква ў імя Пакрава Прасьвятой Багародзіцы [2]).

З Віленскага музэю старажытнасьцяў было выдалена ўсё, што напамінала польскую культуру. У Беларусі пацярпелі будаўнічыя помнікі мінулага. „Даўгачаснае падляганьне Беларусі польскаму панаваньню зьмяніла будаўніцтва нашых царквей; яны пабудаваны тут па выгляду каталіцкіх“, — кажа А. Пыпін [3]). Дзеля адбудовы праваслаўных царквей, ў заходніх губэрнях Расіі, у ліку іх і ў Віцебскай, былі адкрыты царкоўна-будаўнічыя прысутствы. Пачалося перабудаваньне помнікаў царкоўнага будаўніцтва.

У 1866 годзе адведаў Віцебск вядомы дасьледчык Заходняй Расіі П. Бацюшкаў, які знайшоў, што некаторыя царквы „не адказываюць па лацінскаму стылю вымаганьням праваслаўнага храма“ [4])

**Б. Брэжго.**

(Працяг будзе).

## Што чытаць беларускаму вучню.

Самастойнае чытаньне вучняў у хаце, належна накіроўваемае школьным настаўнікам і бацькамі, зьяўляецца адным з мацнейшых спосабаў агульнага разьвіцьця дзяцей, а таксама ёсьць, і павінна быць, добрай крыніцай, з якой вучні самастойна могуць чэрпаць разныя веды ў дадатак, а часта і зьверх таго курса навучаньня, што праходзіцца ў розных клясах школы. Дзеля гэтага складаньне каталёгаў кніг для розных узростаў дзяцей і школьнае моладзі заўсёды зьяўляецца аднэй з буйнейшых задач настаўніцтва розных краін і розных народаў. Паўстала гэтае заданьне і перад нашым настаўніцтвам і перад нашай, дужа яшчэ маладой, нацыянальнай школай.

Нямаль да самага апошняга часу ў Латвіі прынята было лічыць, нават у некаторых беларускіх вучыцельскіх колах, што беларускаму дзіцяці і школьніку няма чаго чытаць, што ў беларускай літаратуры няма адпаведных твораў, а таму трэба даваць беларускаму вучню кнігу для хатняга чытаньня ў іншых даступных яму мовах. Вось-жа, у гэтым артыкуле аўтар хоча пазнаёміць беларускае вучыцельства і беларускіх бацькоў у Латвіі з тымі, даволі ўжо багатымі кніжнымі скарбамі, якія мы маемо для дзяцей і моладзі рознага ўзросту.

Ужо пры першых спробах стварэньня беларускае нацыянальнае школы, якія зроблены былі двадцаць пяць год таму назад Яку-

---

[1]) Циркуляръ Департамента Общихъ дѣлъ Министерства Внутреннихъ Дѣлъ 4 ноября 1866 г., № 229.

[2]) Витебскія Губернскія Вѣдомости, 1910, № 195.

[3]) А. Пыпінъ. Исторія Русской этнографіи, IV, 29.

[4]) Дѣло Витебскаго Губернскаго Церковно-строительнаго Присутствія 1835 г. № 6. О передѣлкѣ въ г. Витебскѣ каѳедральнаго Николаевскаго собора

бам Коласам (Канстантынам Міцкевічам) і Цёткай (Алёзыяй Пашкевічавай-Кэйрыс) яшчэ ў часы першае расейскае рэвалюцыі, а таксама і пасьля таго, як у 1915 годзе беларуская нацыянальная школа сталася ўжо існуючым фактам, — перад беларускімі пэдагогамі і пісьменнікамі адчыняліся дзьве магчымасьці абслужыць беларускіх дзяцей, школьнікаў і моладзъ належнымі падручнікамі і кнігаю: або пісаць новыя адпаведныя творы, або скарыстаць ужо існуючыя ў іншых мовах творы і выбраўшы з іх лепшыя, зрабіць пераклады на беларускую мову. Беларускія пісьменнікі і пэдагогі пайшлі па абодвых гэтых шляхох. Так, ужо ў 1906 годзе ў Петраградзе (сучасны Ленінград), беларускім выдавецтвам „Загляне сонца і ў наша ваконца“ была выпушчана кніжыца Цёткі — „Першае чытаньне для дзетак беларусаў“; у 1907 годзе тое-ж выдавецтва выпусьціла кнігу для школьнікаў і народу — „Гутаркі аб небе і зямлі. На беларускую мову перавярнулі К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі“; у 1910 годзе там-жа выйшла кніга Якуба Коласа — „Другое чытаньне для дзяцей беларусаў. Пераглядзеў і прадмову прыпісаў Л. Сеўрук“. Сьледам за гэтымі аўтарамі і выданьнямі зьявіліся працы Л. Гарэцкай, Я. Лёсіка, Б. Тарашкевіча і цэлага шэрагу іншых.

На працягу чверці стагодзьдзя праца гэтая паступова разгорталася, і зара‘ мы маемо ўжо для дзяцей і беларускае моладзі зусім паважную бібліатэку. Складаецца гэтая бібліатэка і з паасобных кніжок, выдаваных у разныя часы рознымі беларускімі выдавецтвамі ў розных гарадох Беларусі і за межамі яе, а таксама і з цэлых сэрый, выпушчаных у працягу апошніх год, найбольш у Меншчыне. Гэтыя сэрыі, як па сваіх тэхнічных і выхаваўча-пэдагогічных якасьцях, так і па сваёй мэтанакіраванасьці і ўстаноўцы на прыродазнаўства, — зьяўляюцца найбольш цікавымі для настаўніцтва, а таму з іх мы і пачнём наш агляд.

### Кніжкі для дзетак-малалетак.

**Зьм. Бядуля — „Качачка-Цацачка“. Казка. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. Цана 40 кап.** Год выданьня не азначаны. Выдадзена кніжыца у ліку 3000 экзэмпляраў на плотнай літаграфскай паперы і надрукавана у чатыры колеры. Фармат кніжыцы даволі вялікі — 15 сантымэтр. шыраві ды 25 з паловай сант. вышыні. На кождай старонцы, якіх у кнізе 16, зьмешчаны вялікі і прыгожы чатырохколяровы малюнак, а над ім, ці пад ім, буйнымі добра-чытэльнымі літарамі пададзены тэкст аб Качачцы-Цацачцы. У тэксьце апавядаецца аб збалаванай Качачцы-Цацачцы, якая пачула сябе хворай, бо была вялікая гультайка, увесь час ляжала на пуховай падушачцы, ела смачныя пірагі і ніколі не працавала. Пачалі цёткі ды мамачкі-нянькі лячыць Качачку-Цацачку, пасылалі яе і за мора, клікалі да яе розных мясцовых знахараў, але нічога не дапамагала — не папраўляецца, і толькі тады паздаравела Качачка-Цацачка, як узяўся яе лячыць мужык-пятух Янка-Балабанка, які, добра адсьцябаўшы яе дзягай-падпярэзінай, паслаў на поле жыта жаць: тут яна праз тры дні паздаравела. Пры чытаньні казкі у дашкольнай і у першай клясе яна нязьменна выклікае у дзяцей агульнае зацікаўленьне і вясёлы рогат, а потым жаданьне вывучыць яе на памяць і замаляваць паасобныя моманты. Вялікія малюнкі вельмі палягчаюць дэманстраваньне іх значнай групе вучняў. Казку гэтую горача рэкамэндуемо бацьком і настаўнікам.

**Зьм. Бядуля. — „Два марозы“. Казка. Беларускае Дзяржвыдавецтва. Менск. Цана 40 кап.** Выданьне такога-ж тыпу як і „Качачка-Цацачка“. Апавяданьне ідзе аб Марозе Сінім Носе і аб Марозе Чырвоным Носе па зьместу вядомае народнае байкі на гэтую тэму. Шмат малюнкаў, надзвычайна цікавых для дзяцей і для перамалёвак у клясе і у хаце.

**Зьм. Бядуля. — „Воўк дурань“. Беларускае Дзяржвыдавецтва. Менск. Цана 55 кап.** Таго-ж тыпу, што і папярэднія выданьні, багата ілюстраваная апрацоўка народнае байкі аб хітрай лісіцы і дурным ваўку.

**Зьм. Бядуля. — „Як жабы бараніліся ад бусла“. Казка. Белдзяржвыдавецтва. Менск. Цана 50 кап.** Таго-ж тыпу шматколернае выданьне, фармату 17 на 27 сантымэтраў, з прыродазнаўчым нахілам. На кажднй з 12 балонак вялікі малюнак.

**А. Зіміенка — „Працавітая дзяўчынка“. Белдзяржвыдавецтва. Менск. Цана 22 кап.** Багата ілюстраванае, шматкаляровае, вершаванае апавяданьне аб дзяўчынцы, якая дапамагае маці працаваць у хаце. З вялікаю ахвотаю вывучаецца дзяцьмі напамяць; шмат хто з дзяцей потым стараецца быць падобным да працавітае дзяўчынкі. Вельмі карысная кніжыца для выхаваўчае працы сярод дзяцей малодшага веку, паступаньне і трыманьне якіх цалком залежыць ад адпаведных прыкладаў.

**А. Зіміенка. — „Нашы прыяцелі“. Белдзяржвыдавецтва. Менск. Цана 60 кап.** Шматколерная, прыгожаілюстраванае выданьне краязнаўчага характару, апавядае аб хатнік жывёлах і птастве, а таксама аб стварэньнях, хаця-ж і ня хатніх, але карысных чалавеку. Мастацкая апрацоўка і удала складзены тэкст захоплівяюць самых малых дзяцей і змушаюць іх задумацца над навокальным жыцьцём, прыглядацца да яго і разважаць аб ім. Своечасна паднесеная дзіцяці кніжыца гэта можа зрабіць дужа важныя і карысныя уплывы на яго агульнае разьвіцьцё.

**К. Езавітаў.**

(Працяг будзе).

## Хроніка беларускага жыцьця у Латвії.

**Зачынена беларуская школа** у вёсцы Вайцюлеве, Прыдруйскае воласьці, Дзьвінскага павету, ня гледзячы на тое, што лік вучняў у школе быў даволі значны. Кіраўнік школы, вучыцель Мікалай Талерка, звольнены з пасады. Такім чынам, у Індраўскім районе, дзе ваколічнае жыхарства на 90% зьяўляецца беларускім, улада паступова зачыняе адну-за-аднэй беларускія нацыянальныя школы, змушаючы беларусаў хадзіць у адчыненую у Індры латыскую Дзяржаўную школу. „Лаўры“ польскіх чыноўнікаў, руйнуючых беларускую школу у Заходняй Беларусі і жадаючых перарабіць беларусаў на палякаў, не даюць спаць некаторым і з нашых Латвійскіх урадоўцаў, якія жадаюць зраўняць беларусаў у латышоў. Чым больш выяўляецца у некаторых беларускіх настаўнікаў жаданьне „дайсьці да згоды“ з гэтымі латыскімі шовіністамі, тым з большай энэргіяй і нахрапам напіраюць яны на беларускую школу. Беларускаму настаўніцтву і грамадзтву пара ужо зразумець, што толькі моцная абарона сваіх інтэрасаў можа паправіць справу.

**Звольнены з пасады беларускі вучыцель** гр. Даніла Казлоўскі, супроць якога паведзены былі інтрыгі некаторымі варожымі беларускаму адраджэньню элемэнтамі. Грамадзянін Казлоўскі кіраваў Дудэльскаю беларускаю школаю, аб стане якой намі пісалася у № 3 (13) нашага штомесячніка, кіраваў ня кепска. Зараʼ на мейсца гр. Д. Казлоўскага прызначана вучыцелька В. Мадзалеўская. На звольніўшуюся беларускую вакансыю ніхто з беларускіх кандыдатаў не прызначаны, а вакансыя гэта перададзена латышу.

**Беларускі паэта Пятро Сакол** дастаў нарэшці невялічкую сталую пасаду у аднэй з прыватных беларускіх установ у Рызе. Спадзяёмся, што зараʼ ён зноў зможа, нарэшці, аднавіць сваю карысную літарацкую працу, якая было занянала у апошнія гады, у зьвязку з тым цяжкім станам, у які трапіў быў наш здольны паэта. У траўню месяцы 1933 году споўніцца 10 год з таго часу, як П. Сакол выступіў у вучнёўскім штомесячніку Люцынскай беларускай гімназіі „Ластаўка“ з першым вершам. Зборнік вершаў П. Сакала вышаў у Рызе у 1929 годзе, пад назовам „На сьвітаньні“, і карыстаўся заслужанай увагай беларускага грамадзтва. Зараʼ, у зьвязку з надыходзячым 10-цігодзьдзем рыхтуецца да друку новы зборнік вершаў П. Сакала.

**Беларускія бібліатэчныя аддзелы у Рызе** існуюць зараʼ пры гэткіх бібліатэках: 1) пры Дзяржаўнай Латвійскай Бібліатэцы на Замкавым пляцу, дзе сабраны беларускія навуковыя выданьні; 2) пры Рыскай Мястовай Бібліатэцы на Ратушным пляцу (тут кніжок малавата); 3) пры 6-й Мястовай Бібліатэцы на Чырвонай Дзьвіне на Сымнаўскай вуліцы № 14-16, дзе сабраны кнігі для дзяцей, моладзі, рабочых і сялянства; 4) пры Бібліатэцы Усеелатвійскага Вучыцельскага Хаўрусу на Мельнічнай вуліцы, 12-14, дзе ёсьць абразцы беларускіх падручнікаў, кнігі па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускай літаратуры; 5) у Беларускім Аддзеле пры Міністэрстве Асьветы, дзе ёсьць і беларускія выданьні і абшырная пэдагогічная літаратура. Зараʼ робяцца крокі аб стварэньні беларускіх аддзелаў пры мястовых бібліатэках на Маскоўскім Фарштаце і у Торэнзбэргу.

**Вечарына-акт** Т-ва „Беларуская Хата“ з повіаду 50-тых угодкаў ад нарадзін Якуба Коласа адбудзецца 30 кастрычніка у зале расейскага клюбу на Вялікай Каралеўскай вуліцы 1. У праграме прадугледжана: уступная прамова старшыні Т-ва—Міколы Дзямідава; лекцыя аб Якубе Коласе — старшыні Беларускага Навукова - Краязнаўчага Т-ва — Канстантына Езавітава; дэклямацыя вучняў Вячэрняе беларускае дадатковае школы для дарослых; выступленьне хору гэтае школы і драматычнае дружыны Т-ва. Пачатак а 7-й гадзіне увечары.

**Беларускае Выдавецтва у Латвіі** рыхтуецца да выпуску новага Зборніку вершаў Пятра Сакала к 10-тым угодкам працы паэты. У зьвязку з гэтым Выдавецтва зьвяртаецца да ўсяго беларускага грамадзтва з просьбай аб падтрыманьні гэтага выданьня шляхам папярэдняй падпіскі на новы зборнік, які будзе каштаваць 1 лат 50 сант., а таксама праз выпіску першага Зборніка П. Сакала — „На сьвітаньні“, які каштуе 1 лат. Выпісываць можна па адрасу: „Baltkrievu Izdevniecība Latvijā“, Rīgā, Elija ielā, 20, dz. 25.

**Агульны сход Т-ва Беларускае моладзі,** які быў прызначаны на 16. X. г. г., не адбыўся з прычыны адсутнасьці кворума. Наступны Агульны сход адбудзецца 13-га лістападу г. г. а 2-й гадзіне дня у Рызе у памешканьні Дзяржаўных беларускіх вучыцельскіх курсаў, вул. Брыўзэмнэка 22. Павестка Агульнага сходу застаецца ранейшай: 1) выбары прэзыдыуму сходу, 2) даклад Цантральнага Праўленьня, 3) даклад Рэвізыйнае камісіі, 4) плян працы і буджэт на будучы год, 5) зьмены статуту, 6) выбары Цантральнага Праўленьня, 7) выбары Рэвізыйнае камісіі, 8) бягучыя справы. Гэты сход будзе лічыцца прабамоцным пры любым ліку удзельнікаў.

**Беларускі дзіцячы сад у Дзьвінску** пераведзены з Старага Фарштату бліжэй да школы на Новае Страеньне на Гарадзенскую вуліцу.

**Провады С. П. Сахарава.** 6 кастрычніка педагогічная сямейка Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі разьвіталася з сваім дырэктарам С. П. Сахаравым. У гэты дзень на кватэры старшыні Школьнае Рады д-ра П. І. Цэльядта была зроблена сяброўская вячэра. Пад час вячэры калегамі гр. Сахарава было сказана шмат прамоў, у якіх падкрэсьліваліся якасьці С. Сахарава як чалавека, як пэдагога і як супрацаўніка, пры чым выказвалася пажаданьне, каб гэта разьвітаньне было часовым і каб С. Сахараў зноў зьвярнуўся да працы у гімназію.

У адказ на прамовы С. Сахараў у караценькіх рысах застанавіўся на гісторыі арганізацыі беларускай меншасьці у Латвіі і той актыўнай ролі, якую ён заняў у ей, спачатку як кіраўнік Беларускага Аддзелу, а потым як дырэктар Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі. „За час 11-ці гадовай працы мне прыйшлося перажыць шмат і радасных і цяжкіх хвілін“,—сказаў С. Сахараў, — „як і ува ўсякім руху, так і у беларускім было некалькі кірунікаў, некалькі паглядаў; былі няпрыемнасьці, але усё гэта ужо перажыта. Беларускае грамадзтва у Латвіі шукае новых шляхаў у сваей працы, і шчыра жадаю, каб гэты шляхі вялі к росквіту і умацаваньню беларускай справы у Латвіі!“

На заканчэньне С. Сахараў падзякаваў сваіх супрацаўнікоў за сумесную больш чым 7-мі гадовую працу і пажадаў ім пры новых стварыўшыхся варунках у гімназіі, посьпеху у іх дзейнасьці на карысьць нашае беларускае моладзі.

Вячэра прайшла у цёплай сяброўскай абстаноўцы.

**Гімназіяльны.**

0-10

## Сьвяткаваньне пяцідзясятых угодкаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Рыская беларуская прыватная гімназія „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ прызначыла сьвяткаваньне пяцідзясятых угодкаў выдатнейшых беларускіх паэтаў Янкі Купалы (Луцевіча) і Якуба Коласа (Канстантына Міцкевіча) на канец кастрычніка месяца.

У суботу 29-га кастрычніка а 8 гадзіне увечары у зале гімназіі адбудзецца урачысты сход бацькоў, вучняў, настаўнікаў і запрошаных гасьцей, на якім выкладчыкам беларускае літаратуры у гімназіі, К. Б. Езавітавым, будзе прачытана лекцыя на тэму: „Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэньні“. Затым адбудзецца дэклямацыя і сьпевы вучнёўскага гімназыяльнага хору.

Запрошаньні можна атрымаць у дырэктара гімназіі (Вялікая Маскоўская вуліца, 173, тэл. 30158) штодня ад 17 да 22 гадзін. Беларускае грамадзтва запрашаецца абавязкова быць прысутным на гэтым сходзе і сваей прысутнасьцьцю далучыцца да агульнага ушанаваньня выдатнейшых нашых пісьменнікаў.

Дырэктар гімназіі **А Родзька.**

## Ліст У Рэдакцыю.

Высокапаважаны Грамадзянін Рэдактар!

Пакідаючы з вялікім сумам нашу родную гімназію і пераяжджаючы на жыцьцё у Рыгу, дазвольце мне пры дапамозе Вашай паважанай часопісі паслаць прывітаньне маім супрацоўнікам у беларускай гімназіі і пачатковай школе і выказаць ім шчырую падзяку за тыя добрыя адносіны, якімі я карыстаўся з іх боку у працягу больш чым 7-мі гадовай маей працы у Дзьвінску і якія яны мне выказалі пад час майго ад'езду.

Асабліва цёплыя прывітаньня і найлепшыя пажаданьні пасылаю маім даражэнькім вучням Дзьвінскай беларускай гімназіі і маю надзею, што тая духовая сувязь, якая устанавілася паміж мною і маімі выхаванцамі на грунце агульначалавечых і культурна-нацыянальных ідэалаў, ніколі не загіне.

Не магу тутака не паслаць таксама прывітаньня бацькам вучняў гімназіі, беларускаму вучыцельству Дзьвінскага павету і усяму беларускаму грамадзтву, з якімі я сумесна працаваў. Заклікаю усіх у сучасны адказны для беларускае меншасьці момант выявіць максімум актыўнасьці і цеснага супрацаўніцтва для падойму нашае беларускае справы у Латвіі.

Б. Дырэктар Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае гімназіі **С. Сахараў.**

20 кастрычніка 1932 г. Рыга.

Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў.** Выдавец — **Беларускае Выдавецтва.**



Друкарня Г. Іге, Рыга, Стары Горад, Vecpilsētā, 8. Тэлефон 34212.